Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

12 (520) 25 сакавіка 2010 года

Кошт **свабодны**

# Ñ³íàãîãó ¢ Ëóæêàõ ïðûçíàë³ ïîìí³êàì ã³ñòîðû³

Алесь Сьнег

**Сінагога сярэдзіны XIX стагоддзя ў вёсцы Лужкі Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці атрымала статут гісторыка-культурнай каштоўнасці. Пра гэта БЕЛАПАН паведаміў старшыня Беларускага добраахвотнага грамадства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч.**

Па яго словах, сінагога з’яўляецца не толькі ўзорам юдзейскага культавага дойлідства, але і часткай гістарычнага архітэктурнага ансамбля, які захаваўся ў Лужках і складаецца з сядзібы графаў Плятэраў, царквы, касцёла, вадзянога млына, жылой і грамадзянскай забудовы. Помнік гісторыі злучаны з жыццём Эліэзера Бэн-Іегуды (Лейзера Іцхака Перельмана) — бацькі сучаснага іўрыту, які ўнёс неацэнны ўнёсак у развіццё габрэйскай і сусветнай культуры.

Сінагога ўяўляе сабою аднапавярховы прастакутны ў плане будынак з бутавага каменя і цэглы на схіле высокай надпойменнай тэрасы правага берага ракі Мнюта. Аконныя праёмы аркавай формы, канструкцыя і пакрыццё даху адсутнічае, у інтэр’еры захаваліся фрагменты тынкоўкі з рэшткамі насценных размалёвак. На беразе Мнюты засталіся руіны міквы — прастакутнага ў плане будынка з бутавага каменя і цэглы.

Пры сінагозе да 1930-х гадоў дзейнічаў хедар — пачатковая школа па вывучэнні Торы і Талмуда, дзе навучаўся і Бэн-Іегуда. Ён нарадзіўся ў 1859 годзе ў Лужках, дзе вучыўся да 1872 года. Затым працягваў навучанне ў Полацкай ешыве і Дынабургскай рэальнай вучэльні, а з 1878 года вывучаў медыцыну ў Парыжы.

З 1881 года Бэн-Іегуда жыў у Палестыне, дзе сваю дзейнасць накіраваў на адраджэнне іўрыту як свецкай паўсядзённай мовы. Вяршыняй яго жыцця стала абвяшчэнне іўрыту адным з трох афіцыйных моў Палестыны ў 1922 годзе.

Па сведчанні мясцовых старажылаў, сінагога перастала дзейнічаць з ліпеня 1941 года, калі ў Лужках было створана гета. Пасля вайны сінагога была прыстасавана пад газавую краму, зачыненую ў 1970-я гады. Будынак міквы быў разбураны падчас вайны.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Íà âàäçå - êðóãëû ãîä

Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад іншых малых гарадоў краіны, у Паставах не маюць планаў узводзіць Лядовы палац.** Гэтыя збудаванні потым патрабуюць траціць шмат грошай на эксплуатацыю арэны і на халадзільныя ўстаноўкі. А вось для аздараўлення людзей робяць іншыя патрэбныя аб’екты. Да лета ў адным з мікраранёаў райцэнтра будзе здадзены ў эксплуатацыю 25-метровы плавальны басейн, які цудоўна дапоўніць другі гарадскі фізкультурна-аздараўленчы комплекс. Летась там здалі першую чаргу ФАКа з трэнажорнай залай, саўнай з міні-басейнам і цяпер там штодзённа збіраецца да 100 чалавек. Кожныя выхадныя грашовая выручка перавышае 1 млн. рублёў. Шмат жадаючых адпачыць і на цэнтральным ФАКу, дзе ёсць нават турэцкая лазня і яшчэ адзін невялікі плавальны басейн з вадападам, гейзерам і масажнай пушкай. Паколькі гэты райцэнтр акружаны вадаёмамі, вырашана з дапамогай Федэрацыі веславання Беларусі пабудаваць на возеры Задзеўскае ў Паставах сучасную веслярную базу. Пакуль робіцца яе праект, а потым пачнецца ўзвядзенне цэлага комплекса збудаванняў з гасцініцай, лазняй, ангарамі для лодак, байдарак і каноэ і іншымі аб’ектамі для трэніровак і спаборніцтваў.

Ïîëàöê³ ðà¸í

# ßø÷ý äçÿ¢÷î, à ¢æî ñàìà ìàö³

Станіслаў Раманчук

**У інтымнай сферы ўзаемаадносін супрацьлеглых палоў і за савецкім часам хапала розных праблем, але цяпер моладзь ужо не саромеецца рана пачынаць займацца сэксам.**

Вынікі нядаўна праведзенага ў горадзе Полацку ананімнага анкетавання падлеткаў проста шакіравалі спецыялістаў. Большасць апытаных юнакоў і дзяўчат прызналіся, што ва ўзросце да 14 гадоў ужо зведалі “смак кахання”. Таму і не дзіўна, што у культурнай сталіцы Беларусі летась нарадзілі дзяцей адразу 11 зусім юных дзяўчат, палова з якіх сталі маці-адзіночкамі. Сёлета год толькі пачаўся, а мамамі сталі яшчэ дзве няпоўнагадовыя дзяўчынкі. Гэта тэндэнцыя рана пачынаць палавое жыццё, не ўступаючы ў шлюб, набірае сілу. На ўліку ў жаночай кансультацыі пры гарпаліклініцы стаяць таксама 9 цяжарных школьніц і студэнтак. Ранняя цяжарнасць не можа не адбіцца на іх далейшым лёсе. Як правіла, большасць незапланаваных і таму нежаданых дзетак нараджаюцца кволымі і не вельмі здаровымі. З дапамогай праваахоўных органаў удалося выявіць толькі адно бацькоўства. Добра, што гэтыя раннія матулі не зрабілі аборты, захавалі жыццё немаўлятам, не сталі пакідаць нованароджаных на сметніках. Відавочна, падлеткі павінны быць больш інфармаванымі аб магчымых наступствах палавой разбэшчанасці і карыстацца пры палавых кантактах хоць бы тымі ж прэзерватывамі.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Êàìó çàêîí íå ï³ñàíû

Чэслаў Якубовіч

**Толькі ў даўжыню адно з буйнейшых азёр краіны Дрывяты каля Браслава працягнулася амаль на 10 кіламетраў. У гэтым вадаёме багата рыбы, вылавам якой займаецца рыбная гаспадарка нацпарка “Браслаўскія азёры”.**

Аднак нават у гэтай прыродаахоўнай арганізацыі займаюцца браканьерствам, як высветліла праверка дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Пасля паўторнага ўзважвання тут устанавілі, што болей 370 кг вылаўленай рыбы не ўлічаны, як патрабуецца, у тоневы журнал. І пайшла б тая б рыбка на асабістыя патрэбы рыбакоў, каб не дзяржінспектары. Горш таго, пры пераліку вылаўленых ляшчоў і карасёў былі знойдзены і некалькі шчупакоў, якія пацягнулі агульнай вагой на 9 кілаграм. Між тым, у гэты перыяд года лоўля гэтага санітара вадаёмаў катэгарычна забаронена, бо драпежнік нерастуе. За вылаў кожнага шчупака гора-рыбакам прыйдзецца заплаціць штраф у трайным памеры базавай велічыні за галаву. Да больш строгай адміністрацыйнай адказнасці будзе прыцягнуты брыгадзір гэтай рыбалавецкай брыгады. Дарэчы, па дзеючаму заканадаўству пры паўторным падобным правапарушэнні можа наступіць і крымінальная адказнасць. Толькі летась на рэках і азёрах Віцебшчыны было выяўлена 1985 розных парушэнняў правілаў рыбалоўства. А мы цяпер здзіўляемся, чаму такі дрэнны клёў рыбы і чаму яе так мала стала ў нашых вадаёмах.

# Ï³öåðñêàÿ ì³ë³öûÿ âûðàòàâàëà ñòàðûÿ â³öåáñê³ÿ ³êîíû

Яна Ільіна

**Чатыры старыя іконы XVIII і XIX стагоддзяў, якія належаць 71-гадовай пенсіянерцы з Віцебска, затрымалі падчас аперацыі “Антыкварыят” супрацоўнікі міліцыі Санкт-Пецярбурга.**

Абразы былі знойдзены на адной з кватэр у Піцеры. А да гэтага, як выявіла міліцыя, святыні былі скрадзены з дома віцебскай бабулі. У сувязі з гэтым затрыманы два беларусы, адзін з іх даводзіцца пляменнікам пацярпелай. Разам са сваім сябрам ён хацеў дорага прадаць іконы ў паўночнай расійскай сталіцы. Раней абодва мелі судзімасці.

Як паказала экспертыза, праведзеная расійскімі спецыялістамі, іконы з’яўляюцца гістарычнымі і культурнымі каштоўнасцямі, а іх агульны кошт складае каля 135 тысяч расійскіх рублёў (больш за 12 000 000 беларускіх рублёў). Цяпер антыкварныя абразы супрацоўнікі міліцыі Санкт-Пецярбурга павінны перадаць праваахоўным органам Беларусі, паведамляе партал «В кризис.ру»

## Íàäâîð’å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 25.03.10 | | | | пятн.26.03.10 | | | суб. 27.03.10 | | нядз.28.03.10 | | пн. 29.03. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | · | · - | - - | - - |
| Тэмпература, °C | +1 | 0 | +7 | +4 | +2 | +3 | +12 | +9 | +12 | +7 | +10 | +4 | +7 |
| Ціск, мм | 755 | 756 | 756 | 756 | 755 | 752 | 749 | 745 | 741 | 739 | 735 | 735 | 739 |
| Вільготнасць, % | 95 | 88 | 60 | 73 | 88 | 86 | 53 | 79 | 62 | 75 | 70 | - | - |
| Вецер м/сек | В 4 | Ю-В 5 | Ю 5 | Ю-В 6 | Ю-В 4 | Ю 7 | Ю 9 | Ю-В 4 | Ю 6 | Ю-В 4 | Ю 7 | Ю-З 7 | Ю-З 6 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**З-за няпростай дэмаграфічнай сітуацыі павышэнне пенсійнага ўзросту ў Беларусі непазбежнае, бо змяншаецца колькасць працаздольных людзей. Рэфармаванне існуючай пенсійнай сістэмы адкладваецца, пакуль не пройдуць прэзідэнцкія выбары. Не пазбегнуць і беларусам пераходу на новы пенсійны ўзрост, каб было што і адкуль плаціць пажылым у старасці. Вось толькі жыве нацыя ў межах 70 гадоў у сярэднім, а многія суайчыннікі не дажываюць нават і да 65 гадоў.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Расія.*** Мінэнерга РФ настойвае на стварэнні сумеснага прадпрыемства і толькі ў гэтым выпадку Расія дасць крэдыт на пабудову Беларускай АЭС у Астраўцы.

***Турцыя.*** Краіна рэзка пагоршыла адносіны з многімі заходнімі дзяржавамі ЗША, Англіяй, Іспаніяй, Швецыяй, якія прызналі факт масавага генацыду армян у 1915 годзе.

***Францыя.*** Еўрапарламент асудзіў парушэнні правоў чалавека ў Беларусі і заклікаў зарэгістраваць Саюз палякаў на Беларусі на чале з Анжэлікай Борыс, вярнуць маёмасць.

***Чылі.*** На ліквідацыю наступстваў магутнага землятрусу новаму прэзідэнту С. Піньеру спатрэбіцца 3 гады і каля 30 млрд. USD, бо пашкоджана і знішчана 0,5 млн. будынкаў.

***Грэцыя.*** У краіне не сціхаюць дэманстрацыі пратэсту і масавыя забастоўкі супраць мер урада па пераадоленню фінансавага крызіса, анархісты абрабавалі нават супермаркет.

***Германія.*** Канцлер А. Меркель сумесна з французскім калегам запатрабавала ад ЕС правесці расследванне фінансавых спекуляцый вакол Грэцыі, раней - стварыць Еўрафонд.

***Бельгія.*** Штаб-кватэра НАТА ў Брусэлі вырашыла прадоўжыць сваю ваенную місію з санкцыі ААН па барацьбе з піратствам ля берагоў Самалі да канца 2012 года

***Расія.*** Кіраўнік урада РФ У. Пуцін пацвердзіў, што будаўніцтва 1-й чаргі газаправода "Паўночны паток" завершыцца да канца 2011 года, але попыт на газ у Еўропе падае.

***Эстонія.*** Урад краіны падтрымаў законапраект аб пераходзе з 1 студзеня 2011 года на агульнаеўрапейскую валюту еўра, эстонцы зараз жывуць найлепей на прасторах СССР.

***Расія.*** Экс-прэзідэнт СССР М. Гарбачоў рэзка пакрытыкаваў кіраўніцтва РФ, што яно адышло ад дэмакратыі, свабоды слова, без чаго нельга мадэрнізіраваць вялікую краіну.

***ЗША.*** Краіна аблегчыла рэжым эканамічных санкцый супраць Ірана, Судана і Кубы, каб іх жыхары далучыліся да сучасных інтэрнэт-тэхналогій, мелі сувязь з усім светам.

***Карэя.*** Міністэрства замежных спраў рэкамендавала сваім грамадзянам да канца мая не наведваць Расію з-за росту нападзенняў на замежнікаў і забойства карэйца ў Барнауле.

***Ізраіль.*** У краіне, каб абысці шэраг антыалкагольных забарон, пачалі прадаваць гарэлку ў цюбіках "Wodka" некалькіх гатункаў, падобных на ўпакоўкі зубной пасты.

***Венесуэла.*** Тавараабарот краіны з Беларуссю сёлета можа перавысіць 1 млрд. USD, яшчэ ў 2006 годзе ён дасягаў толькі 5 млн. долараў, летась тут сумесна здабылі 1 млн. тон нафты.

***Румынія.*** Новыя дарожныя знакі "Асцярожна, п'яны пешаход!" з'явіліся на ажыўленых трасах ля горада Пекік, размешчанага ў 20 км ад дзяржграніцы з Венгрыяй, тут шмат ДТЗ.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** З сакавіка 2011 года для ўезду ў Еўропу аўтамабілістам трэба мець правы новага ўзору, іх плануюць выдаваць з ліпеня , у сталіцы адкрыўся новы Цэнтр рэгістрацыі аўто.

***Гомель.*** У 5 раёнах вобласці так і не здалі сучасныя фермы, хоць па графіку павінны былі закончыць будоўлі летась да 1 кастрычніка, а ў Петрыкаўскім і Чачэрскім - здалі "ліпу".

***Мінск.*** Толькі 27 % з 1,8 млн. дзяцей у Беларусі практычна здаровыя, як пацвердзіў 1-ы намеснік міністра аховы здароўя Роберт Часнойць, з 1997 года ў іх растуць хваробы.

***Ліда.*** На падрыхтоўку горада з 100-тысячным насельніцтвам да "Дажынак-2010" выдзелена амаль 500 млрд. рублёў, да свята тут здадуць Лядовы палац і спорткомплекс.

***Мінск.*** У пачатку года сярэдняя заробкі ў Беларусі былі 340 USD, а ў Казахстане 540, Расіі 796, у Літве знізіліся на 8 % да 870, у Польшчы і Чэхіі заробкі болей 1500 USD.

***Брэст.*** У абласным цэнтры пахавалі чатырох гараджан, з іх двух дзяўчын, якія загінулі пад снежнай лавінай на перавале ў цяжкадаступным горным масіве Мурманскай вобласці.

***Мінск.*** Нацыянальным кінапраектам можа стаць экранізацыя рамана У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім", яго сцэнарый пішуць на кінастудыі "Беларусьфільм".

***Пінск.*** Вялікае абурэнне гараджан выклікаў факт пападання ў раку Піна 150 тон смуродных фекальных адходаў з-за халатнасці будаўнікоў пры рамонце каналізацыі.

***Мінск.*** У Генпракуратуры РБ па просьбе літоўскіх калег дапыталі генерала запаса У. Усхопчыка ў якасці сведкі, яго падазраюць, што загадаў страляць па людзях у 1991 годзе.

***Касцюковічы.*** Фінансавая міліцыя спыніла дзейнасць злачыннай групы з 4 чалавек, якія працяглы тэрмін кралі і прадавалі біяпаліва з цеплавозаў Беларускага цэментнага завода.

***Мінск.*** Прэзідэнт А. Лукашэнка на нарадзе амаль 3 гадзіны рэзка крытыкаваў стан любімага айчыннага хакея, на які ідуць агромістыя грошы, але аддачы і вынікаў няма.

***Мядзель.*** Таўшчыня лёду на буйнейшым возеры краіны Нарач яшчэ роўная 57 см з-за халоднага надвор'я, лёд тут пачне ўскрывацца сёлета пазней, чым у папярэднія гады.

***Мінск.*** Пасля выхаду ў свет пятага тома з нумарамі за 1912-1915 і 1920 гады завершана поўнае факсімільнае перавыданне першай і славутай айчыннай газеты "Наша Ніва".

***Брэст.*** Дырэктар музея крэпасці Валерый Губарэнка застаўся задаволены як кансультант якасцю знятага фільма "Брэсцкая крэпасць", яго прэм'ера пройдзе тут раніцай 22 чэрвеня.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** Толькі летась у праваахоўныя органы перадалі каля 100 спраў пасля праверак рэвізорамі калгасаў вобласці, адкуль было скрадзена вінаватымі амаль 2 млрд. рублёў.

***Орша.*** Каб разгрузіць склады (больш 66 млрд. руб.) льнокамбіната, арганізацыям вобласці набудуць сёлета з бюджэту 2,5 млн. кв. метраў тканін, іншыя вобласці купіць па 1 млн.

***Дуброўна.*** З музея баявой славы СШ №1 прыйшлося вывезці і знішчыць баявы снарад часоў Вялікай Айчыннай вайны, бо ён уяўляў небяспеку і мог рвануць у любы момант.

***Віцебск.*** Замест 6 ранейшых з гэтага года на тэрыторыі вобласці засталася працаваць адна Віцебская мытня, апошнім часам працу ў гэтай сістэме страцілі больш тысячы чалавек.

***Наваполацк.*** З двара катэджа паблізу горада быў скрадзены супердарагі джып "Хаммер", па адной з версій гэту машыну выкралі расійскія спецыялісты па ўгонах іншамарак.

***Талачын.*** Мясцовы райвыканкам узнагаліў новы 52-гадовы старшыня Віктар Цапота, які перад гэтым кіраваў калгасам "Дружбінец" у сваім родным суседнім Сенненскім раёне.

***Віцебск.*** Вытворцам вобласці ўлады Паўночнай акругі Масквы дазволілі сёлета правесці 21 ярмарку па продажу беларускіх тавараў адразу на 9 плошчаў у расійскай сталіцы.

***Паставы.*** У адным з лепшых раёнаў Віцебшчыны па закупу малака ад насельніцтва колькасць кароў на падвор'ях летась зменшылася на 262, а коней на 102 галавы.

***Лёзна.*** У райцэнтры прайшоў традыцыйны злёт выпускнікоў школ, але ў раёне застаўся адзін льнозавод і маладыя кадры востра патрэбны толькі сельскай гаспадарцы.

***Віцебск.*** Прыборабудаўнічы завод адправіў заказчыку, Міністэрству абароны Беларусі першую партыю юбілейных медалёў да 65-годдзя Перамогі, усяго заказана іх 85 тысяч.

***Шуміліна.*** Да канца года пададуць прыродны газ у буйную вёску Язвіна ў 7 км ад райцэнтра па даручэнню кіраўніка вобласці, дзе шмат было пустуючых дамоў і кватэр.

***Расоны.*** Вечарам у вёсцы Краснаполле пад дахам абрушыўшайся паветы загінуў вучань 5 класа мясцовай школы, калі прыйшоў сюды калоць дровы, а прывязаны тут сабака выжыў.

***Віцебск.*** Шмат работ паступіла на конкурс па стварэнню помніка кіраўніку ВКЛ у 14 стагоддзі князю Альгерду на кані, які ўстановяць насупраць Васкрасенскай царквы.

***Лёзна.*** На двух выпрацаваных тарфяніках плошчай амаль 1200 га пачаліся работы па аднаўленню іх гідралагічнага рэжыма і забалочванню, каб зноў запрацавала экасістэма.

***Чашнікі.*** Здымачная група Першага нацыянальнага тэлеканала ў рамках праекта "Зямля беларуская" зняла дакументальны і гульнявы відэафільм "Подых чашніцкай зямлі".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**9** ***млрд. USD*** такі грашовы крэдыт, па звестках расійскага Міністэрства фінансаў, запрасіла Беларусь у РФ у якасці інвестыцый для будаўніцтва сваёй АЭС. Але наступіла ўжо вясна 2010 года, аднак тэрміны пачатку гэтай грандыёзнай будоўлі адсоўваюцца і нават кіраўнік дырэкцыі будаўніцтва станцыі Міхаіл Філімонаў не ведае, колькі будзе яна каштаваць беларусам.

Хоць гэта не афішуецца афіцыйна, але Расія не спяшаецца выдзяляць і гэты крэдыт і ўвязвае цяпер паступленне агромістых для нашай краіны сродкаў са стварэннем сумеснага прадпрыемства на будучай АЭС. Дасведчаная расійская газета "Камерсант" прама напісала, што з-за гэтых прычын бакі не падпісалі пагадненне-кантракт у канцы 2009 года. Беларускаму кіраўніцтву зараз няёмка, што мы выбралі не атамную кампанію Францыі-Германіі альбо ЗША-Японіі, а расійскую карпарацыю "Расатам" у якасці генпадрадчыка без праведзення тэндэру толькі таму, што паабяцалі крэдыт на будаўніцтва.

Аднак ужо летась вясной так нелюбімы ўладамі РБ расійскі віцэ-прэм'ер і міністр фінансаў Аляксей Кудрын у сваёй манеры засумняваўся, што будуць вызначаны рынкі збыту электраэнергіі пасля пабудовы Беларускай АЭС, якія дазволяць вярнуць крэдыты. І самае цікавае, гэты спецыяліст экстра-класу мае рацыю. Расія не ўтойвала, што збіраецца сама будаваць сваю Балтыйскую АЭС у Калінінградскай вобласці на фоне істотных нафтавых і газавых супярэчнасцей паміж РБ і РФ. У галіне электраэнергіі існуюць і альтэрнатыўныя яшчэ праекты па будаўніцтву новых АЭС таксама ў Літве і Польшчы.

Вось чаму Расія і не спяшаецца выдаваць крэдыт, мае рацыю і дэталёва ўзважвае ўсе плюсы і мінусы. Да таго ж у Расіі не збіраюцца будаваць, як у нас горад атамшчыкаў. У Балтыйскай АЭС цана энергіі будзе яшчэ меншай, асабліва, калі ўдасца рускім прыцягнуць да будаўніцтва сваёй станцыі замежныя кампаніі. У выніку ў нас на выбранай пляцоўцы ў Астравецкім раёне сёлета пастаўі толькі адзін жылы дом і пачалося будаўніцтва аўтадарогі і чыгуначнай лініі.

Пуск першага энергаблока айчыннай АЭС магутнасцю больш 1000 МВт, намечаны на 2016 год, відавочна пад пытаннем. Нават дырэкцыя гэтай будоўлі паведамляе, што набіраць туды персанал будуць толькі ў 2012 годзе. Калі вакол нас пабудуюць яшчэ некалькі атамных станцый, то тады міжволі можна забыцца, куды прадаваць нам на экспарт лішкі выпрацаванай электраэнергіі. Праўда ў тым, што мы будуем гэту дарагакаштуючую станцыю пераважна для ўнутраных патрэбнасцей і яшчэ больш залазім у даўгавую яму, маючы ўжо сёлета набраных крэдытаў на суму пад 20 млрд. USD.

Не сакрэт, што дабрабыт краіны апошнім часам падтрымліваецца за кошт вялікіх знешніх займаў. Летась пры адмоўным сальдзе знешняга гандлю мінус 5 млрд. долараў за кошт даўгоў і крэдытаў Беларусь выкарыстала на 12,4 % ВУП болей, чым стварыла багацця. Жыць у доўг мы сталі, як Грэцыя, дзе паўстаў сур'ёзны фінансавы крызіс. А ўжо праз 2 гады нашай краіне трэба будзе аддаваць і працэнты. Канешне, раней Расія больш шчодра фінансавала беларусаў, але цяпер рабіць гэта не збіраецца.

Мэтавы крэдыт на АЭС расіяне, безумоўна, нам з цягам часу прадастаўяць, але з улікам сваіх інтарэсаў. Крыўдзіцца на суседзяў за гэта нам не трэба. Важныя перамовы па гэтаму пытанню працягваюцца і хоць станцыя пад Астраўцом можа акупіцца толькі за чвэрць стагоддзя, без дапамогі Расіі нам сваю энергабяспеку не забяспечыць. Дарэчы, сур'ёзнай альтэрнатывы АЭС у свеце няма, бо невыпадкова ў свеце дзейнічаюць зараз больш 400 энергаблокаў, а ў суседняй з намі Украіне 15.

У нашай краіне плануюць пабудаваць два энергаблокі агульнай магутнасцю да 2400 МВт і здаць поўнасцю гэты аб'ект у эксплуатацыю ў 2018 годзе па праекту інстытута "Атамэнергапраект" з Санкт-Пецярбурга. Гэта станцыя потым у стане будзе даваць энергію і цяпло на працягу наступных 60 гадоў. Па разліках можа зменшыцца і кошт вытворчасці электраэнергіі ў нас на 20-30%. Па дагавору не будзе на беларускай тэрыторыі і сховішча для захоўвання адпрацаваных ядзерных адыходаў, а станцыя павінна атрымацца сучаснай, надзейнай і экалагічна бяспечнай.

# «На граніцы хмары ходзяць хмура...»

■ Ул. Скрабатун

**Можна шмат гаварыць аб тым, як гібелі беларусы пад польскім прыгнётам на тэрыторыі Заходняй Беларусі... Так, адбывалася паланізацыя, зачыняліся беларускія школы, сядзелі ў турмах беларускія камуністы і дзеячы нацыянальнага адраджэння. Але, што з таго шкадаваць! Па той бок мяжы, таксама, жылося нясоладка. Рэпрэсіі, растрэлы, эшалоны ссыльных у Сібір...**

Мы патрапілі на 18 гадоў у склад ІІ-ой Рэчы Паспалітай. Гэтыя 18 гадоў у нас была зусім іншая гісторыя і ад гэтага факту нікуды не адмахнуцца.

Красамоўна сказаў адзін мой знаёмы: «У Ломашах сядзелі палякі ў канфедэратках, а праз сотнюдругую метраў, у Лесаве – бальшавікі ў будзёнаўках.» Аб гэтым і сёння нагадвае глыбоцка-полацкая мяжа, а раней – польска-савецкая. Не ведаю як зараз, але ў 1970-ыя гг гэтая мяжа там добра праглядася. Памятаецца: на адным баку расце «глыбоцкая» кукуруза, на іншым – «полацкая» пшаніца, паміж імі – паласа хмызнякоў, метраў дзесяць шырынёй, і – аж да небасхілу, як пад лінейку некім накрэсленая... Гэтая паласа хмызнякоў і ёсць колішняя дзяржаўная мяжа, якая некалі да 17 верасня 1939 года была ўзараная і збаранаваная...

Хто там у Ломашах ахоўваў дзяржаўную мяжу? Напэўна, лужэцкія памежнікі, а можа і падсвільскія... Аднак, у Галубіцкай пушчы, дакладна, падсвільскія.

Знайшоўся архіўны здымак адной з падсвільскіх памежных стражніцаў (заставаў). У якім месцы Галубіцкай пушчы і ў якім пункце польска-савецкай мяжы яна знаходзілая – невядома. На польскіх жа вайсковых тапаграфічных картах стражніцы адзначаныя толькі скаротам – strazn.

Калі звычайная памежная стражніца ўяўляла сабой сапраўдны шэдэўр драўлянага дойлідства, то культура ў палякаў была на вышыні! Куды там раўняць і ставіць побач савецкія заставы тых часоў, якія былі падобныя на пабудовы барачнага тыпу. Дарэчы, згаданая падсвільская стражніца (гл. здымак) пабудаваная ў «закапанскім стылі», папулярным і міжваеннай Польшчы.

Прыедзьце ў вёску Хралы, якая да верасня 1939 года стаяла ля самай мяжы, па «наш» бок мяжы. Тут Вам і сёння апавядуць пра подзвіг камандзіра заставы, афіцэра Палчынскага.

Гэта быў не абы які дзень, нават час... Палчынскі, камандзір заставы ў Каменным Возе, прыехаў на матацыкле да свайго сябра – такога ж афіцэра – на заставу (стражніцу) ў вёску Гразі. Трэба параіцца з саслужыўцам. Трывожныя прадчуванні! У біноклі было бачна, як па той бок мяжы шыхтуецца Чырвонае Войска. Сумневаў ніякіх не было – неўзабаве бальшавікі рушаць праз мяжу! Гэта было на досвітку 17 верасня 1939 года.

Палчынскі сеў на матацыкл і тэрмінова выехаў у Каменны Воз... Сваім падначаленым (звычайна, да стражніцы было прыпісана 10-12 чалавек, у залежнасці ад асабліваcцяў тэрыторыі) ён загадаў рушыць пешшу да кашараў Падсвілля. Сам жа, з жаўнерам-кулямётчыкам, узабраўся на вежу стражніцы...

І хто ведае – можа гэта і ёсць менавіта тая стражніца ў Каменным Возе? Гледзячы на здымак – згадваюцца абрысы падмуркаў у лесе, якія захаваліся да сённяшніх дзён. Аўтар некалькі разоў наведваўся сюды. Усё ж – грыбное месца, баравікоў шмат! У тым самым месцы ганак, з левага тарца была прыбудаваная прыбіральня, пра што сведчаць і цяпер «вочкі» у бетоннай падлозе... Усё менавіта так! Хіба што, гэта – тыпавы праект, і падобных стражніцаў, напэўна, было ўзведзена не мала...

Сёння на тым месцы – высокія карабельныя сосны Галубіцкай пушчы, а ў 1939-ым – было амаль голае поле...

Чырвонармейцы ішлі ў поўны рост. З вежы стражніцы стракацеў кулямёт. Чырвонаармейцы адстрэльваліся з вінтовак.

Кулямётчык загінуў. Афіцэр Палчынскі заняў яго месца. Аднак, скончыліся кулямётныя ленты. Палчынскі спусціўся з вежы стражніцы ў будынак за боеприпасамі. Гэтага часу было дастаткова, каб чырвонаармейцы паспелі наблізіцца ўпрытык да стражніцы і акружыць яе. У вокны паляцелі гранаты. Палчынскі загінуў...

Наколькі гэта праўда – невядома, але, кажуць, чырвоны камандзір над целам забітага польскага афіцэра-памежніка сказаў сваім салдатам: «Вучыцеся! Вось так трэба ваяваць!»

На поле засталося ляжаць, калі верыць старажылам, да шасці дзесяткаў трупаў чырвонаармейцаў.

Стражніца ў Каменным Возе не захавалася... І захавацца не магла! У часе апошняй вайны тут была партызанская зона. Нямецкія бамбёжкі, абстрэлы з гарматаў... Баі партызан з карнікамі за выхад з акружэння... Аб тых часах сёння сведчаць не толькі мемуары і мастацкія фільмы, але і матэрыяльныя сведчанні: абеліскі і стэлы, Курган Славы – ў гэтым месцы Галубіцкай пушчы.

Зрэшты, з нецярпеннем чакаем лета! Даўно ў нас запланаваная вандроўка ў Галубіцкую пушчу. Цікава было б праехацца-прайсціся кіламетраў 40 – уздоўж былой дзяржаўнай мяжы. Чакаем немала сюрпрызаў...

Стражніца ў Каменным Возе. Польска-савецкая мяжа ў раёне возера Шо. Стражніца ў Гразях.

Вынятка з польскай вайсковай тапаграфічнай карты за 1932 год.

Фрагмент назіральнай вежы.

Выгляд адной з памежных стражніцаў каля Падсвілля, якая належыла 7-му батальёну Корпуса Аховы Памежжа (Korpus Ochrony Pogranicza). Архіўны здымак.

# Стань захавальнікам ТВП “Сэрвач”!

*Будзем вельмі ўдзячныя тым, хто захоча ўдзельнічаць у цікавым праекце.*

Віцебшчына багатая каштоўнымі прыроднымі тэрыторыямі. Тут размешчаны Бярэзінскі біясферны запаведнік, выдзелена шмат заказнікаў. Многія з іх маюць статус тэрыторый, важных для птушак. Ужо назва кажа сама за сябе. Гэта месца, дзе гняздуецца альбо збіраецца пад час міграцыйных пералётаў шмат рэдкіх і знікаючых відаў птушак. Такія тэрыторыі з’яўляюцца вельмі важнымі для захавання папуляцый многіх відаў птушак. Скарочана яны называюцца ТВП. Сёння ў Беларусі выяўлена больш за 40 тэрыторый. Але пошук новых тэрыторый вядзецца і зараз. Над гэтым працуюць як навукоўцы, так і аматары прыроды.

На Глыбоччыне і Мёршчыне выдзелена 4 ТВП, гэта Балота “Ельня”, “Цікіны астравы”, “Галубіцкая пушча” і “Сэрвач”. Кожная з іх цікава па свойму. Адна з самых адметных – “Сэрвач”, бо тут знаходзіцца самая паўночная кропка ў Беларусі, дзе гняздуецца вяртлявая чаротаўка. Адзін з самых рэдкіх відаў птушак у свеце. Для захавання гэтай тэрыторыі тут створаны гідралагічны заказнік “Сэрвач”, які размясціўся на тэрыторыі двух раёнаў Віцебскай вобласці - Докшыцкага і Глыбоцкага. Ён створаны ў 1997 годзе для захавання гідралагічнага рэжыма возера Сэрвач, аднайменнай ракі і яе прытокаў, аховы непаўторных балотных комплексаў. У 2001 годзе ў выніку экспедыцыйных работ было выяўленна гнезданне ў заказніку двух відаў птушак, якія знаходзяцца пад пагрозай глабальнага знікнення: вяртлявай чаротаўкі і дубальта. Сустракаюцца тут і іншыя рэдкія віды: чапля-бугай, шэры журавель.

Захаванне такой каштоўнай тэрыторыі – наш абавязак. Грамадская арганізацыя “Ахова птушак Бацькаўшчыны” з 2009 года актыўна працуе над стварэннем сеткі захавальнікаў нашых ТВП. Захавальнікі ТВП – гэта людзі з ліку актыўных, неабыякавых да лёсу роднай прыроды мясцовых жыхароў або аматараў прыроды, якія маюць магчымасць рэгулярна наведваць тэрыторыю і кантраляваць яе стан. Да сеткі захавальнікаў можа далучыцца любы чалавек, які зацікаўлены прыродай і мае жаданне тым ці іншым чынам удзельнічаць у іх захаванні.

Колькасць ТВП у Беларусі ўжо зараз значная і яна павялічваецца. Акрамя вялікай колькасці, тэрыторыі, важныя для птушак, змешчаны па ўсёй тэрыторыі Беларусі, у тым ліку і ў цяжкадасягальных кутках, што робіць немагчымым пастаянную прысутнасць навукоўцаў, супрацоўнікаў дзяржаўных прыродаахоўчых арганізацый і АПБ на іх. Захавальнікі па прычыне таго, што жывуць на ТВП або рэгулярна там бываюць могуць «прыглядаць» за тэрыторыяй у любы час.

У мінулым годзе адной з першых тэрыторый, дзе пачалося стварэнне і развіцце сеткі захавальнікаў стала ТВП “Балота Ельня”, зараз пошук захавальнікаў пачынаецца і для ТВП “Сэрвач”. Для захавальнікаў плануецца правядзенне некалькі семінараў-трэнінгаў, працоўных сустрэч, дзе ўдзельнікі змогуць пазнаёміцца з магчымасцямі захавальнікаў і атрымаць неабходныя веды для дзейнасці. Захавальнікі змогуць прыняць удзел у шэрагу цікавых акцый і мерапрыемствах, а таксама пазнаёміцца з “суседзямі”, якія з’яўляюцца захавальнікамі іншых ТВП.

Калі Вы актыўны аматар прыроды, жывеце ці наведваеце мясціны возера і ракі Сэрвач, Вы можаце далучыцца да праграмы і ўдзельнічаць у захаванні Тэрыторый, важных для птушак “Сэрвач”. Для гэтага трэба звязвацца з ВОЛЬГАЙ ЛУКШЫЦ праз e-mail lukshyts@ptushki.org або па тэлефону 8-017-263-06-13 (офіс АПБ). Звязвайцеся з намі, калі Вы можаце стаць захавальнікам іншай ТВП рэгіёна (“Ельня”, “Галубіцкая пушча”, “Цікіны астравы”).

Будзем вельмі ўдзячныя тым, хто захоча ўдзельнічаць у цікавым праекце.

***Заўвага рэдакцыі:*** *у публікацыях іншых аўтараў птушка вяртлявая чаротаўка названая – вяртлявая чарацянка.*



# Вясновая паводка ў Глыбокім


На вул.Кірава, 82

З павышэннем тэмпературы надвор'я напачатку трэцяй дэкады сакавіка, Глыбоцкія камунальнікі і дапамагаючыя ім выратавальнікі амаль кругласутачна вядуць упартую барацьбу з вясновай паводкай. Створаны штаб па барацьбе з надзвычайнай сітуацыяй, задзейнічана ўся магчымая тэхніка: чатыры вадавозкі, дзве перанасныя матапомпы ЖКГ і тры пажарныя машыны МНС.

Грэх сказаць, што да вясновага разводдзя камунальнікі не рыхтаваліся. Загадзя прамываліся гарачай вадой сцёкавыя трубы ў канавах, пад дарогамі. Але капрызніца-надвор'е як бы здзекавалася з карпатлівай працы. Месцамі марозец зноў скоўваў шляхі сцёкаў талай вады і прыходзілася пачынаць усё спачатку.

Амаль метровая мерзлата глебы ўскладняе становішча, ды і даехаць да месца затаплення не заўжды выпадае магчымым. Куды адпампаваць ваду таксама праблема.

Шкада людзей, трапіўшых у бяду, цяжка і змагарам са стыхіяй. Асабліва дзяжурнаму дыспечару ЖКГ. Тэлефон не змаўкае, і людзі просяць-моляць паратунку. Канешне, дыспетчар гатовы шчыра, ад усёй душы дапамагчы кожнаму, але як дапамагчы ўсім і адначасова?

І гэта толькі пачатак вясновых выпрабаванняў!


«Ноеў каўчэг»


Раён возера Сэрвач і аднайменнай ракі.

# «Бяспека дзяцей на дарогах залежыць ад дарослых»

■ **І.Р. Анашкевіч,** начальнік ДАІ.

Штогод на дарогах здараюцца сотні дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх гінуць і атрымліваюць траўмы людзі. Але здарэнні, у якіх пацярпелі дзеці, асабліва трагічныя і памятныя, бо становяцца ахвярамі аварый яны не толькі з-за ўласнай няўважлівасці і неасцярожнасці, але і таму, што парой проста не ўмеюць арыентавацца ў дарожным становішчы. Не цалкам усведамляюць, якая небяспека падцікоўвае тых, хто ігнаруе Правілы дарожнага руху.



З пачатку года на дарогах Віцебскай вобласці з удзелам дзяцей адбылося 6 ДТЗ. Пацярпела 7 дзяцей, адзін з іх памёр. Сярод пацярпелых 3 дзяцей-пасажыраў, 4 – пешаходы.

У студзені ў Аршанскім раёне ў выніку ДТЗ атрымалі целавыя пашкоджанні малалетнія браты шасці і трох гадоў, якія ехалі ў якасці пасажыраў, для аднаго з іх яны сталіся несумяшчальныя з жыццём.

Першыя дні сакавіка таксама, на жаль, прынеслі трагічныя весткі.

У Полацкім раёне кіроўца аўтамашыны, не справіўшыся з кіраваннем, здзейсніў наезд на школьніка-веласіпедыста, які ад атрыманых траўмаў памёр.

У гор. Глыбокім другакласніца, якая раптам выйшла на праезную частку дарогі, патрапіла пад колы аўтамабіля і атрымала целавыя пашкоджанні.

Гэта сведчыць пра тое, што дзеці не здольныя адказваць за свае ўчынкі, кантраляваць сваю бяспеку, – гэта абавязаны рабіць тыя, хто за іх у адказе. Гэта значыць, дарослыя.

Папярэджанне дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму – гэта комплексная праца, якая здзяйсняецца ў цесным узаемадзеянні Дзяржаўтаінспекцыі з іншымі службамі міліцыі, выканаўчай улады, адукацыйнымі ўстановамі і грамадскімі аб'яднаннямі, бацькамі.

Абыякавых і незацікаўленых асоб у барацьбе з гэтай з'явай быць не можа. Дрэнная статыстыка - амаль кожнае дванаццатае здарэнне адбываецца з юнымі ўдзельнікамі дарожнага руху. Гэта ненатуральна, калі яшчэ ўчора здаровае дзіця з-за недарэчнай трагічнай выпадковасці прыкавана надоўга да бальнічнага ложку, становіцца інвалідам, для яго заканчваецца дзяцінства. Не кажучы пра тое, што можа перапыніцца жыццё.

Аналіз дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму сведчыць пра недастатковыя веды пацярпелымі дзецьмі Правіл дарожнага руху і няўменні правільна арыентавацца ў дарожным становішчы. Асноўнымі чыннікамі ДТЗ па неасцярожнасці дзяцей часцей за ўсё становяцца: парушэнне правіл пераходу праезнай часткі; непадпарадкаванне сігналам светлафора; нечаканае выйсце на праезную частку з-за транспартнага сродку, дрэў; гульня на праезнай частцы; няўмелае кіраванне роварам.

Схільнасць дзяцей да няшчасных выпадкаў на дарозе абумоўлена такімі асаблівасцямі іх псіхафізіялагічнага развіцця, як няздольнасць адэкватна ацэньваць становішча; імкненне пераймаць дарослых; недахоп ведаў пра крыніцы небяспекі і інш. Амаль дзве траціны з агульнага ліку пацярпелых на дарозе дзяцей трапляе пад машыну з-за адсутнасці галоўнага транспартнага навыку: прадбачання ўтоенай небяспекі.

Найбольш часта ў дарожна-транспартныя здарэнні трапляюць дзеці-школьнікі. Псіхалогія такіх удзельнікаў дарожнага руху складаная і непрадказальная. Дзеці малодшага школьнага ўзросту, як удзельнікі дарожнага руху, не могуць адэкватна арыентавацца ў дарожна-транспартнай сітуацыі, бо арганізм, які развіваецца, не здольны ў поўным аб'ёме ўспрымаць і супастаўляць вонкавую інфармацыю, таму патэнцыйную небяспеку ўяўляе ўжо само знаходжанне дзіцяці паблізу дарогі. Вось чаму навучанне элементарным правілам паводзін на вуліцы найбольей эфектыўна ў дашкольных установах і пачатковых класах адукацыйных школ.

Неабходнасць прывіцця дзіцяці навыкаў спакойных упэўненых паводзін на дарозе, уменне прадбачыць небяспеку, арыентавацца ў дарожна-транспартнай сітуацыі і прымаць правільныя рашэнні – абавязак дарослых, як бацькоў, так і педагогаў.

У сувязі з пачаткам вясновых вакацый, у мэтах папярэджання дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму, прапаганды Правілаў дарожнага руху і выпрацоўкі навыку бяспекі паводзін на вуліцах, з 16 па 26 сакавіка 2010 года ў вобласці праводзіцца комплекс прафілактычных мерапрыемстваў «Бяспека дзяцей на дарогах залежыць ад дарослых».




# Якасны мантаж – гарантыя бяспекі

■ **А.С.Крывёнак,** *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага раёна*

Як правіла, тэхнічны стан электрычных установак, іх бяспечная эксплуатацыя павінны забяспечвацца на самай ранняй стадыі, яшчэ пры выкананні мантажу. Адмысловая ўвага павінна надавацца праверцы якасці выкананых размеркавальных і сілавых шаф, шчыткоў асвятлення і іншага электраабсталявання на адпаведнасць патрабаванням ДАСТ 30331 (1-15), ПУЭ і іншай нарматыўна-тэхнічнай дакументацыі.

Праверка якасці электрамантажных работ і адпаведнасці электратэхнічнага абсталявання праекту пры допуску электраўстановак у эксплуатацыю паказвае, што шматлікія электрамантажныя арганізацыі пры мантажы сілавых і асвятляльных электраправодак, сілавых размеркавальных шчытоў і асвятляльных шчыткоў не ў поўным аб'ёме выконваюць патрабаванні праектнай дакументацыі, ПУЭ, ТКП. Не адпавядае афарбоўка жыл правадоў кабельнай прадукцыі патрабаванню ДАСТ МЭК 60227/2000. Гэта тлумачыцца перадусім адсутнасцю належнага кантролю за пастаўкай электратэхнічных вырабаў і электраабсталявання з боку тэхнічнага нагляду арганізацыі-заказчыка і парушэннем падраднымі арганізацыямі нормаў тэхнічнай дакументацыі, згодна якіх прыёмка ад заказчыка вырабаў і абсталявання павінна праводзіцца ў строгай адпаведнасці з праектнай дакументацыяй.

Здавалася б, што можа быць прасцей, чым заказаць і праверыць пры атрыманні наяўнасць афарбоўкі жыл кабеля. Але гэтыя патрабаванні ДАСТ часцей за ўсё парушаюцца. Заказчык і мантажныя арганізацыі не задумваюцца над тым, што няякасна зробленае абсталяванне будуць эксплуатаваць і абслугоўваць іншыя спецыялісты. У выніку, спецыяліст, які абслугоўвае электраўстаноўку можа атрымаць сур'ёзную траўму ці нават загінуць, калі замест нулявога дакранецца да фазнага проваду, які мае афарбоўку нулявога.

Пры допусках электраўстановак у эксплуатацыю сістэматычна выяўляюцца і іншыя парушэнні ДАСТ і ПУЭ, найболей характэрныя з іх:

- не пазначаюцца клемнікі PE і N усярэдзіне размеркавальных шчытоў і шчыткоў асвятлення;
- не далучаюцца металічныя канструкцыі, трубаправоды гарачай і халоднай вады, газаправоды, трубаправоды каналізацыі і вентыляцыі да сістэмы раўнавання патэнцыялаў;
- у размеркавальных шафах і электрашчытках адсутнічае маркіроўка правадоў;
- для пракладкі сілавых і асвятляльных электраправодак ужываюць правады і кабелі сячэння, не адпаведнага праектнаму рашэнню;
- даступныя адкрытыя токаводныя часткі фазных праваднікоў з прычыны залішняга зняцця ізаляцыі.

Дадзены пералік можна працягнуць. Разам з тым, падобныя парушэнні могуць быць папярэджаны толькі пры ўмове, што кіраўнікі электрамантажных арганізацый будуць рэгулярна кантраляваць рашэнне гэтых праблем, прымаць вычарпальныя меры па папярэджанні ўсіх парушэнняў і ўвесь час надаваць увагу павышэнню якасці выканання мантажных работ.



# Метадычныя рэкамендацыі

■ **І.Р. Анашкевіч,** начальнік ДАІ

З 16 па 26 сакавіка 2010 года Дзяржаўтаінспекцыя Віцебскай вобласці праводзіць адмысловы комплекс прафілактычных мерапрыемстваў «Бяспека дзяцей на дарогах залежыць ад дарослых!», накіраваных на прафілактыку дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.

За мінулы перыяд 2010 года ўжо зарэгістравана 6 дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам дзяцей, пры гэтым у Аршанскім раёне ў выніку ДТЗ загінула дзіця, які ў момант аварыі знаходзілася ў машыне ў якасці пасажыра. У астатніх выпадках дзеці былі траўміраваны. Асаблівую ўвагу хацелася б звярнуць, на тое, што 4 з 6 нясчасных здарэнняў адбыліся па віне дзяцей. Сярод пацярпелых – 3 дзяцей пасажыраў і 4 пешаходы.Што датычыць нашага Глыбоцкага раёна, то ўжо ў бягучым годзе адбылося 2 ДТЗ з удзелам няпоўнагадовых, у якіх яны атрымалі цялесныя пашкоджанні. У адным з выпадкаў віноўнае дзіця-пешаход, які выбег на дарогу, у іншым выпадку кіроўца аўтамабіля не прапусціў дзіця-пешахода, што пераходзіў праездную частку па пешаходнаму пераходу.

Паважаныя дарослыя! Каб захаваць дзіцяці жыццё і здароўе, прывучайце яго да дарожнай дысцыпліны, выхоўвайце ў ім пачуццё асцярожнасці пры пераходзе праезнай часткі, штодня нагадвайце дзецям пра неабходнасць выканання правіл пешаходнага руху. Прыклад дарослых – галоўнае ў забеспячэнні бяспекі дзяцей на дарогах. Не заставацца абыякавымі да гэтай праблемы – павінна зыходзіць з сэрца кожнага.

Паважаныя кіроўцы! Бо Вы, як ніхто іншы ведаеце, што дзеці могуць быць бестурботныя на дарозе, схільныя да гульняў і свавольстваў. Таму, убачыўшы дзіця на дарозе ці поруч яе, прыміце ўсе меры засцярогі. Праязджаючы міма дзіцячых садоў, школ, гульнявых пляцовак, прыпынкаў грамадскага транспарта, будзьце вельмі ўважлівыя, улічвайце магчымасць раптоўнага з'яўлення дзяцей на дарозе.

Не забывайце і пра правілы перавозкі дзяцей: памятайце, што дзяцей да 12 гадоў забаронена перавозіць на пярэдняй сядушцы. Зачыняйце дзверы аўтамабіля на ахоўную зашчэпку, не пакідайце на задняй сядушцы цяжкіх і вострых прадметаў, бо ў момант рэзкага тармажэння яны могуць параніць дзіця. На жаль, клопат кіроўцаў-бацькоў пра дзяцей абмяжоўваецца часцяком толькі налепкай на заднім шкле «Дзіця ў машыне», але ніякіх гарантый бяспекі жыцця і здароўя малышу гэты надпіс не дае. Зразумейце, часцяком лёс дзіцяці ў аварыйнай сітуацыі вызначае тое, як ён сядзіць у аўтамабілі, бо маленькі пасажыр схільны значна большай небяспецы, чым дарослыя, а калі няма магчымасці набыць дзіцячае аўтамабільнае крэсла, то дзіця неабходна прышпіліць і абавязкова самім заўсёды карыстацца рамянямі бяспекі.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

29 сакавіка – 4 красавіка 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 29 сакавіка




**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.55** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** «ЗВЕЗДНЫЕ ТАНЦЫ».
**10.50 «Не родись красивой»**
**11.35** «OFF STAGE LIFE» с Дмитрием Дащинским.
**12.10 «Свадьба»**
**14.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «С родителями под одной крышей».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** Культурные люди.
**15.55** Здоровье.
**16.20 «Огни большого города»**
**17.20 «Не родись красивой»**
**18.25** «Прости меня».
**18.50, 00.00** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ток-шоу «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55** «Серебро для джигитов».
**22.05 «Доктор Хаус. Четвертый сезон»**
**23.10 «Герои-3»**
**00.05** День спорта.
**00.20** Хоккей для всех.




**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Дыхание планеты».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Шестой день творения».
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15 «Виола Тараканова. В мире преступных страстей»**.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Мисс Беларусь - 2010».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Моя прекрасная няня». После свадьбы.**
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00 «Остаться в живых»**.
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20**«Преступлениявека».
**23.55** Профессиональный бокс.
**00.25 «Женаты... с детьми»**.
**00.55** Наши новости.
**01.10-01.20** Новости спорта.



ТЭЛЕКАНАЛ "ЛАД"

**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»** (Россия).
**08.25** Час суда. Дела семейные.
**09.30** В этот день.
**09.35** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.30** Ироническая мелодрама **«Театр»**
**12.20** «Пра мастацтва».
**12.45** Школа ремонта.
**13.40** «Белорусский акцент». Николай Бурнос (Беларусь).
**14.10** Внеклассный час.
**14.25** Бухта капитанов.
**15.05** Телебарометр.
**15.20 «Оружие»**
**16.20** Час суда. Дела семейные.
**17.25** Простые упражнения
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.05 «Люди Шпака»**
**20.05** Белорусское времечко.
**21.15** Калыханка.
**21.35** Большое сердце.
**22.05 «Универ»** (Россия).
**22.35** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**23.30** Хоккей. Формула игры.
**00.00 «Оружие»**

ТЭЛЕКАНАЛ "СТВ"

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Мачеха»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** «Большой город».
**15.40** «Горячий лед».
**16.05** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50**«Добропожаловаться».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.30 «КАРАСИ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичн. футбол».
**23.25 «НЕВЫНОСИМАЯ ЖЕСТОКОСТЬ»**.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў
**17:05** Еўропа сёння
**17:40 «Арол: крымінальная сага»**,
**18:35** Госць «Белсату»
**18:55** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:05** Прэс-экспрэс
**19:20** Англійская мова з Ліпі і Мэсі
**19:25 «Прыгоды Ціўкі»**,
**19:40** Моўнік
**19:45** ПраСвет
**20:05**Невядомая Беларусь
**20:35**Прыватная калекцыя
**21:00** Аб'ектыў
**21:20 «Развязка матчу»**

